 


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 19 (271) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 7 МАЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## КАБ ТАК ДАЛЕЙ

Кляшчэлі — гэта невялічкае мястэчка, якіх шмат у Беластоцкім ваяводстве. У яго штодзённым жыцці больш прыкмет бытавога характару. Людзі пераважна займаюцца тут хлебаробствам. Клапаціцца аб асабістай гігіене, калі да жыцця служыць толькі кубал вады і балея? «Вось, каб была ў нас лазня» — уздыхалі часта жыхары Кляшчэль, ды не толькі ўздыхалі, але не адзін раз ставілі гэтую справу на сваіх сходах.

Грамадская рада не асталася глухой на патрабаванні сваіх выбаршчыкаў. Пабудаваць можна і трэба, прадстаўлялі справу працаўнікі рады, але бяда ў тым, што няма за што будаваць. Рада не мае фондаў на пабудову. Пачалі супольна абмяркоўваць справу і шукаць выхаду. Урэшце пастанавілі, што кожны грамадзянін дабраахвотна зложыць на фонд пабудовы лазні па 50 зл. Гэтыя грошы будуць выкарыстаны на пакупку неабходных матэрыялаў. Такім чынам у жніўні 1959 г. можна было распачаць ужо першыя працы, а 25 лістапада мінулага года лазня ў Кляшчэлях была аддана ў карыстанне.

Агульны кошт яе пабудовы складае суму паўмільёна злотых, а дзяржава далажыла да яе пабудовы толькі 195 тыс. злотых. Параўнанне гэтых двух лікаў гаворыць ужо само за сябе. Кляшчэляўцы шмат папрацавалі, але цяпер не мусяць выкарыстоўваць балеі для асабістага « буйнейшага» мыцця. Найлепш сведчыць аб тым лік карыстаючых з лазні. За тыдзень часу бывае ў ёй звыш 200 асоб.

(Працяг на стар. 4.).

## МОЖНА ЯШЧЭ ЗЛАЖЫЦЬ ЗАЯЎКУ НА БЕЛАРУСКУЮ ФІЛАЛОГІЮ ПРЫ ЗАВОЧНАЙ СТУДЫІ Ў БЕЛАСТОКУ

Ужо 27 настаўнікаў зложыла свае заяўкі на Беларускую філалогію ЗНС у Беластоку. Настаўнікі беларускай мовы, якія яшчэ не паспелі зрабіць гэтага, могуць у бліжэйшым часе выслаць прашэнні аб прыняцці на беларускую філалогію ў свае Інспектараты асветы. Раім не марудзіць і зрабіць гэта ўжо сёння.

(п)

## З БЕЛЬШЧЫНЫ Ў ЧЭХАСЛАВАКІЮ

Павятовае праўленне Саюза сялянскай моладзі і Павятовая рада Сялянскіх спартыўных калектываў (ЛьЗС) у Бельску Падляшскім наладзілі для моладзі свайго павета шасціднёвую цікавую турыстычную экскурсію, якая закончылася пабыўкай у Чэхаславакіі. У экскурсіі прымала ўдзел 45 асоб, большасць якіх — жыхары вёсак. Экскурсанты праз тры дні знаёміліся з Варшавай і іншымі польскімі гарадамі, а апошнія тры дні правялі ў нашых паўднёвых суседзяў.

Гэтая экскурсія каштавала ўдзельнікаў усяго ледзь па 550 злотых. Кожны экскурсант мог яшчэ дадаткова выменіць 600 злотых на чэхаславацкія кароны, каб мець грошы на харчаванне ў Чэхаславакіі і на пакупку дробных памятных падаркаў.

Турыстычная экскурсія моладзі з Бельскага павета з'яўляецца першай з шэрагу экскурсій, якія ў бягучым турыстычным сезоне намераны наладжваць маладзёжныя арганізацыі Беластоцкага ваяводства.

В. Р.

Маладая ўкраінка з Баняў Мазурскіх. Да артыкула п. з. «Па-суседску мы жывем» (2 стар.).

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ПАШАНА І АШЧАДНАСЦЬ КНІЖКІ

Як мы ўжо пісалі, уведзена арганізаваную замкнутую продаж школьных падручнікаў. Пачынаючы ад будучага навучальнага года, вучні будуць абяспечвацца падручнікамі не ў кніжных магазінах, але непасрэдна ў сваіх настаўнікаў. Лепшыя вучні будуць купляць новыя падручнікі, а горшыя — старыя. Але ўсіх вучняў будзе абавязваць суровы рэжым ўтрымання сваіх кніжак у чыстым і добрым стане. Адным словам — абавязвае ашчаднасць. Карыстаючыся нагодай пабыўкі ў пачатковай школе ў Мілейчыцах, мы звярнуліся ў сувязі з гэтым новаўвядзеннем у школьным жыцці да настаўніка выкладчыка беларускай мовы, Анатоля Мартыновіча, з некалькімі пытаннямі.

**— Паводле даведкі ў Інспектараце асветы ў Сямяцічах, ваша школа займае адно з першых месц у ашчаднасці падручнікаў. Як гэта сталася? Хто аб гэтым з вас дбае?**

— Аб належным карыстанні падручнікамі дбаюць у нашай школе самыя вучні. Зразумела, што гэта ў многім залежыць ад настаўнікаў, выхаваўцаў паасобных класаў. Але толькі адміністрацыйная дарога ў выхаванні не дае пажаданых вынікаў. Патрэбны тут, як і ў цэлым педагагічным працэсе навучання, умелы падыход настаўніка. Мы часта закраналі гэтыя справы на пасяджэннях нашага педагагічнага савета... Нашы вучні ўжо навучыліся карыстацца сваімі ўласнымі падручнікамі, таксама як і школьнай бібліятэкай.

**— Вас хіба гэтае цешыць як школьнага ўпаўнаважанага нowага продажу падручнікаў.**

— Так. Менш буду мець працы з вучнямі ў гэтым напрамку. Напрыклад, вучні III, IV і V класаў ужо

(Працяг на стар. 4.).

## СЕМІНАР ЛІТАБ'ЯДНАННЯ

22 красавіка г. г. у Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску адбыўся семінар членаў Літаратурнага аб'яднання, існуючага пры Галоўным праўленні БГКТ.

Перад семінарам адбылася сустрэча настаўнікаў і школьнікаў ліцэя з членамі літаб'яднання. Прысутныя на сустрэчы горача ўспрымалі выступленні Віктара Шведа, Алеся Барскага, Дзмітрыя Шатыловіча, Яшы Бурша і Янкі Беразаўца. Вельмі сардэчна ўспрынята выступленне найстарэйшага з членаў Літаб'яднання — 70-гадовага Антося з Лепля, які прачытаў сваё апавяданне «Кірмаш у Глыбокім». Аднак найбольш прысутным падабаліся дзіцячыя вершы Анатоля Хлябіча. Пасля кожнага прачытанага ім верша на зале ўздымаліся бурныя воплескі.

Пасля сустрэчы адбыўся творчы семінар Літаб'яднання. З дакладам аб літаратурных жанрах у паэзіі выступіў старшыня Літаб'яднання — Алесь Барскі. Пасля даклада адбылася дыскусія.

У заключэнні семінара Бацькоўкі камітэт Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя наладзіў супольную вячэру, якая прайшла ў вельмі цёплай атмасферы.

(вб)



НА МАЗУРАХ. Фота — Аляксей Казберук

 






Не бойцеся...



СОНЕЧНЫ ГАДЗІННІК.



ШУКАЕ ЖОНКІ.




### НАСМЯЯЎСЯ

Адзін чалавек меў прозві: іча Бульба, а другі Кошык. Бульба аднойчы хацеў пасмяяцца над Кошыкам і ён яго пытае:

— Куды едзеш, Кошык?

— На поле, капаць бульбу, — адказаў той.

**Ніна Дмітрук**
Барысаўка

### ЯШЧЭ НЕ СКОНЧЫЛА

— Ну і што табе сказала жонка, як ты ўчора вярнуўся позна дахаты.

— Не ведаю. Яшчэ не скончыла гаварыць.

**Марыя Руслякова**
Парцава

### ДА ЧАГО НАЛЕЖАЦЬ ВУШЫ

— Мама, ці вушы належаць да твару?

— А чаму ты пытаеш?

— Бо ў школе настаўніца казала, каб добра мыць увесь твар, а я не ведаю ці вушы належаць да твару.

**Андрэй Сідарук**
Сакі

### У КРАМЕ

Прыйшоў Коля да крамы і кажа:

— Дайце мне за 50 грошы мешаных цукеркаў.

Прадаўшчыца падала яму два цукеркі і кажа: — Памяшай сам.

**Міхась Янкоўскі**
Альхоўка

### ВЫКАНАЛА ЗАГАД

— Ці доктар дома? — пытае служанку наведвальніца.

— Падыйдзіце, калі ласка, бліжэй да святла, — папрасіла служанка.

— Навошта?

— Хачу пабачыць, ці няма ў вас барадаўкі на носе, бо доктар загадаў, што калі б пыталася пра яго пані з барадаўкай на носе, дык мушу сказаць, што яго няма дома.

**Міколка Якімюк**
Дубічы Царкоўныя



— ... доктар, я праглынуу манету!

— А навошта ты прыцягнуў сябра?

— Ён патрабуе сваю манету назад!

ЗАМЕЖНЫЯ КАРЭСПАНДЭНТЫ Ў САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ.



— Хто з іх Гагарын?

— Кожны!

## Ай-Яй-Ёй




Што я ўбачыў, што хаджу я
Сам не свой,
Ах, якая прыгажуня,
Ай-яй-ёй!

Я гляджу, ў палон забраны
Той красой,
Што за постаць,
Што за тварык,
Ай-яй-ёй!

Спавіла сваім паглядам
І хадой,
Што за вочкі,
Што за ручкі,
Ай-яй-ёй!

Загубіў сваё я сэрца
І спакой,
Як адкрыцца,
Што сказаць мне,
Ай-яй-ёй!

Пакуль я круціў да болю
Галавой,
Падышоў аднекуль
Хлопец,
Ай-яй-ёй!

Пад руку і знік — з дзяўчынай
За гарой,
А я ўслед гляджу,
ўздыхаю:
Ай-яй-ёй!
Ай-яй-ёй!

# МАЁЎКА

І так вырашылі мы арганізаваць маёўку.

— Ведаю я вельмі прыгожае месца, — распачаў Кастусь. — Там лясок і рэчка пад бокам. Лепшага месца на маёўку ніхто не знойдзе. Любіш пазабаўляцца рыбкай — калі ласка. У майскі дзянёчак рыбка клюе, як п'яніца носам. Ведае рыбка, што ў такі дзень трэба людзей парадаваць і чапляецца за кручок як мы за аўтобус. Але на нашай маёўцы, — Кастусь павысіў голас, — для налівайка - залівайкіных грамадзян месца зусім не прадбачваецца. Ды і наогул не ўсім жыхарам належыць калектыўная разрыўка. Возьмем, напрыклад, такую Настусю. Яе ж людзі ведзьмай завуць, хоць і ведаюць, што ведзьмы ніколі не існавалі. Падслухвае Настуся пад акном, праз шчылінкі ў чужое жыццё заглядвае, а пасля плёткі ўсялякія па вёсцы пускае. Пагэтаму і кажуць суседзі, што на сам выгляд Настусі, карове нутро курчыцца і перастае карова малако даваць. На маю думку, Настусю варта было б у магазін ГС выслаць. Няхай яна там на тавары глядзела б, каб цэны курчыліся. Ольга з Тацянай ды Марыя з дачкой Люсяй таксама на маёўку не паедуць, таму, што яны абгаворваюць кожнага з ног да галавы. Люська зарабляе ў школе двойкі, а Марыя — маці перапраўляе іх на тройкі, дык дзе ж нам такіх грамадзянак браць на маёўку?

Мінулай восенню кіраўнік школы з вучнямі абсадзілі дрэўкамі школьны агарод. А суседка Надзя пачала прывязваць карову і каня да маладых дрэвак. Прывязвала так, пакуль усіх дрэўкаў не паламала. Дык ці ж Надзю возьмем на маёўку?

Пакуль Кастусь гаварыў, людзі апусціўшы вочы, ціхком разыходзіліся. Хутка каля Кастуся засталіся толькі солтыс з фельчарам.

— А ты сам разлічыўся з сабраных грошай на навагоднюю ёлку? — нечакана запытаў Кастуся солтыс.

— Курыная памяць! — На смерць забыўся, — прызнаўся Кастусь, драпаючы патыліцу.

— Выходзіць, няма у нас каму весяліцца на маёўцы, — сказаў солтыс. — Я таксама ж адчуваю грахі за сабой.

Людзі добрыя, можа з прычыны падобных спраў шматлікія грамадзяне і заліваюць сваё сумленне на маёўках. Цяжка ж ім весяліцца, маючы нячыстае сумленне.

*Дзядзька Лявон*